# Рыхтуецца і друкуецца інфармацыйна-анатацыйны сьпіс

## № 29

### ПАРТМАС.

**Ленін.** (Ін-т гіст. парт. Кастр. рэв. (Аб дробнабуржуазных партыях Арк. 2.

**Ленін.** (Ін-т гіст. парт. і Кастр. рэв.) (Аб Кастрычніцкай рэволюцыі 3 арк.

**Ленін.** (Ін-т гіст. парт. і Кастр. рэв.) Аб рэволюцыйнай фразе Арк. 0,5.

**Ленін.** (Ін-т гіст. парт і Кастр. рэв.) Чарговыя задачы Савецкай ўлады. Арк. 2.

**Ленін.** (Ін-т гіст. парт. і Кастр. рэв.) Посьпехі і труднасьці Савецкай ўлады. Арк. 1,5.

**Ленін.** (Ін-т гіст. парт. і Кастр. рэв.) Аб „левым“ дзяцінстве і аб дробнабуржуазнасьці. Арк. 1,5.

### СЕЛЬГАС

**Кароткі даведнік** па агратэхніцы гародніны. Арк. 12

Даведнік разьлічан на брыгадзіраў гародніх гаспадарак, тэхнікаў і актыў. Будзе карысным і для аграномаў, кіраўнікоў саўгасаў, колгасаў, студэнтаў садова-гародніх ВНУ і тэхнікумаў аграгурткоў і слухачоў саўгасвучаў.

Кніга мае вялікую каштоўнасьць для практыкаў соцыялістычнае гаспадаркі.

**Сокалаў А.** Плугі пшанічныя. Арк. 2.

Навучна-папулярная кніжка аб „пшанічных“ плугах, якія і ва ўмовах БССР зьяўляюцца неабходнымі с/г арудзьдзямі ў шэрагу р-наў з мяккай сярэдняй глебаю.

Разьлічана на самыя шырокія масы чытачоў—калгасьнікаў і рабочых саўгасаў.

**Кочаткоў.** Дарогу плугу. Арк. 1,5.

Шляхі разьвіцьця мясное проблемы і роля трусагадоўлі (кролікаводзтва) у вырашэньні гэтае проблемы. Першапачатковыя веды аб доглядзе за трусамі. Пароды трусоў. Арганізацыя трусагадоўлі. Напісана папулярнай мовай.

### ВУЧПЭД.

**Панкевіч П.** Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах БССР. Арк. 7,5.

Вопыт соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах БССР за 1931/32 навучальны год. Фактычны матэрыял аб становішчы соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах.

### ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА.

**Сокалаў.** Ваенная работа ў паліт.-асьветных установах на вёсцы. Арк. 3,5.

Дапаможнік для актыву раённых арганізацый, вучняў асьвет. установ і для працоўнікаў хат-чыталян па правядзеньні ваеннай работы сярод насельніцтва.

**Красіцкі.** Баявая работа малодшага камандзіра. Арк. 9.

Кніга разьвівае ініцыятыву камандзіра аддзяленьня ў баі, ва ўмовах ўжываньня тэхнічнай зброі ў сучаснай арміі, ва ўсіх выпадках боя. Карысна і для сярэдняга начскладу, як мэтадычны дапаможнік па арганізацыі заняткаў па падрыхтоўцы аддзяленьня і ўзвода, як у арміі, таксама і ў ТСАвіяхімаўскіх вучэбных пунктах.

| Папярэдняя заяўка кнігарні ........ | |
|---|---|
| I | II |

Філіялам і кнігарням ДВБ належыць выразаць увесь гэты сьпіс, запоўніць яго патрэбнай колькасьцю экз. кожнай назвы (у графы I) і зараз-жа даслаць яго Сэктару Кнігагандлю ДВБ (Менск, Пляц Волі, 5).

Кнігарням БАКТ'у і РСС сваю заяўку вызначыць у графы II і ўвесь сьпіс даслаць БАКТ'у (Менск).

# ВЫШЛІ З ДРУКУ з 21/VII па 30/IX 1932 г.

### ВАЙСКОВАЕ ВЫДАВЕЦТВА.

**Адамовіч Д.** Прызыў у РСЧА—адказная палітычная кампанія. Тыр. 7.000. ц. 10 к.

**Амосаў.** Танкі ў баі. Тыр. 5.000, ц. 25 к.

**Кадзішаў А.** Ваенная небясьпека і задачы абароны СССР. Тыр. 7.000, ц. 40 к.

**Кірыенка К.** Кітайская чырвоная армія. Тыр. 5.000, ц. 95 к.

**Ліпман Н.** Запіскі Чырвонаармейца-далёкаўсходніка. Тыр. 3.000, ц. 75 к.

**Настаўленьне** па стралковай справе РСЧА ч. І. (Стралковая зброя, вінтоўка узору 1891 г.). Тыр. 7.000, ц. 20 к.

**Настаўленьне** па стралковай справе РСЧА. ч. І. (Рэвольвер сыстэмы Наган узору 1895 г.) Тыр. 3.000, ц. 25.

**Памятка** чырвонаармейцу аб зьберажэньні вінтоўкі. Тыр. 5.000, ц. 07 к.

**Парфірыдаў** і інш. Цяжкая атлетыка. Тыр 3.000, ц. 55 к.

**Піетарынен К.** Фінляндыя і яе ўзброеныя сілы. Тыр. 4.000, ц. 30 к.

**Разьвіцьцё** ваеннага майстэрства ўХХвеку. Тыр. 3.000, ц. 95 к.

**Сізы Е. Я.** Масавая работа ў колектыве фізычнае культуры. Тыр. 3.000, ц. 45 к.

**Сізы Е.** і **Круглоў А.** Навучальная-мэтадычная работа у колектыве Фізычнае культуры. Тыр. 3.000, ц. 50 к.

**Стаселько А.** Ваенна-марскія сілы. Тыр. 3.000, ц. 15 .

**Сьмірноў Н.** Авіяцыя і пяхота Тыр. 5.000, ц. 25 к.

**Сьцяпанаў С.** На Далёкаўсходняй варце. Тыр. 3.000, ц. 30 к.

**Унукаў В.** Фізыка і вайна. (Выпуск II. Цяплыня, гук, сьвятло). Тыр. 3.000, ц. 1 р 15 к.

**Уткін І.** Вайна і мір. (Вершы . Тыр. 2.000, ц. 1 руб. 25 к.

**Ушакоў Д.** Як рабіць і як перамагаць загароды. Тыр. 3.000, ц. 65. к.

**Цюцюнаў-Орскі Н. Н.** Супроць газы і дапаможныя сродкі асабістай супроць хімічнай абароны. Тыр. 7.000, ц. 20 к.

**Барэйша М.** Памятка аб зьберажэньні і чыстцы гармат. Ухвалена тэхнічным штабам Начальніка ўзбраеньняў РСЧА, стар. 54, тыр. 3.000, ц. 20 к.

**Гелер І.** Памятка ваенкору на манэўрах. Пераклад з рускай мовы А. Падносаў, стар. 38, тыр, 5.000, ц. 10 к.

**Дашынскі С.** Японія ў Манчжурыі. (З рускай мовы. Пераклаў К. Даўкша.) Стар. 50 плюс. схэма—тыр. 5.000, ц. 25 к.

**Крымаў Л.** Праграма і канспэкт-пытальнік па стралковай падрыхтоўцы. Стар. 72 тыр. 5000 1932 г., ц. 25 к.

**Каліноўскі К.** Проблема маторызацыі і мэханізацыі сучасных армій. Даклад на паседжаньні Ваеннай Сэкцыі пры Комакадэміі 29 лістапада 1930 г. (Пераклад з рускай мовы К. Шумянковай), стр. 46, тыр. 3.000, ц. 35 к.

**Салаўёў Ф.** Як пабудованы гарматы. Стар. 32, тыр. 4000, ц. 35 к.

**Тэхнічная фізыка.** Заданьне № 1. Завочны сэктар НКА. Базавы завочны сэктар пры МБПТ. Стар. 26, тыр. 5.000, ц. 20 к.

**Управа баявой падрыхтоўкі РСЧА.** Настаўленьне па стралковай справе РСЧА. Мэтодыка стралковай падрыхтоўкі і курсы стрэльбы 1932). Зацьверджана 9-га лютага 1932 г. Народным Камісарам ваенных і марскіх спраў і старшынёю РВС СССР. Стар. 318, тыр 7000, ц. 1 р. 40. к. пер. 20 к.

**Шмідт З.** Хімічная вайна і першая дапамога пры паражэньнях атрутнымі матэр. Стр. 84, тыр. 5000, ц. 40 к.

**Херсонскі А.** Наган. Узаемадзеяньне частак, чыстка і захоўваньне. З 15-цю малюнкамі. (Пераклад з рускай мовы. С. Грахоўскага). Стар. 44, тыр. 3000, ц. 25 к.

## Т. т. Кніжнікі!

**Дасылайце ў „Дэкаднік“ свае артыкулы і заметкі!**

**Асьвятляйце лепшыя узоры масавай работы кнігарні.**

**Дзяліцеся вопытам сваёй работы!**

Выдавец—Сэктар Кнігагандлю ДВБ. Адказны рэдактар Я. Клейнэр.
Друк. імя Сталіна Зак. № 2490 Уп. Галоўлітбелу № а 1034